Расписание движения пригородных и междугородних автобусов на стр. 3. Шаснаццаць год за кратамі — на стр. 4



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.

№ 23 (52). Слонім. 5 — 11 чэрвеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны

# ... З ДЭПУТАЦКІМ МАНДАТАМ



**У мясцовым судзе разглядалася адміністратыўная справа, у выніку якой жанчына была пакарана штрафам за незаконнае спісанне бензіну і выкарыстанне службовага транспарту ў асабістых мэтах. Нічым асаблівым гэтая справа не вызначалася сярод іншых, калі не ўлічваць тое, што судзілі Анастасію Шляхценка. Больш таго, фота гэтай жанчыны і яе інтэрв'ю было змешчана ў "Слонімскім весніку", дзе карэспандэнту яна расказвала пра мноства тых добрых спраў, што зрабіла жанчына на пасту старшыні раённага таварыства інвалідаў.**

Шчыра кажучы, неяк не верылася, што гэты паважаны ў горадзе чалавек, кіраўнік грамадскай арганізацыі, да таго ж дэпутат гарсавета, Анастасія Шляхценка — дробны злодзей.

Аднак звярнемся да дакументаў. У красавіку фінансавым аддзелам гарвыканкама была праведзена праверка асобных накірункаў дзейнасці гэтай грамадскай арганізацыі за перыяд са студзеня 1997 года па красавік 1998 года. У выніку высветлілася, што Шляхценка, знаходзячыся на стацыянарным лячэнні ў бальніцы, неабгрунтавана спісала на службовы аўтамабіль 110 літраў бензіну на суму 924 тысячы рублёў.

Акрамя гэтага падчас праверкі быў знойдзены яшчэ адзін факт махінацыі з бензінам, у выніку якога яна "залішне" спісала 62 літры бензіну А-76 на суму 520,8 тысяч рублёў.

Рэвізоры фінансавага аддзела выявілі і факт злоўжывання службовым становішчам Шляхценка. Інакш, відаць, нельга назваць тое, што ў верасні 1997 года па накладной №34 Шляхценка А.В. быў адпушчаны мяккі куток коштам 6 млн. рублёў, а грошы за мэблю яна заплаціла толькі ў снежні 1997 года і то не адразу.

"Дзе гэта ў Слоніме існуе такі магазін, што дае мэблю без грошай?" — можа спытаць хто-небудзь з чытачоў.

Не трэба ламаць сабе галаву і бегчы шукаць такую гандлёвую кропку, бо ее няма. Усё значна прасцей: пры таварыстве інвалідаў з чэрвеня 1997 года дзейнічае сталярны цэх па вырабу мэблі.

Свая рука — уладыка. Мусіць таму мяккі куток без аплаты перавезлі са сталярнага цэха ў кватэру Анастасіі Васільеўны. Калі б такі высакародны ўчынак старшыня таварыства зрабіла для любога інваліда, тады было б зразумела...

Аднак варта звярнуцца да інтэрв'ю з Шляхценка: "Не магу не выказаць пачуццё пашаны да вас (да А.В.Шляхценка — **В.Ж.**), мужнай жанчыны, чалавека, які аддана служыць людзям..." («Слонімскі веснік», № 31, 7 красавіка 1998 г.).

Не ведаю, аб якой мужнасці і адданасці людзям ідзе размова ў інтэрв'ю, аднак, у сваю чаргу падумаў: відаць, сапраўды трэба мець пэўную мужнасць, каб будучы дэпутатам гарсавета і старшынёй таварыства інвалідаў, абкрадаць тых самых інвалідаў.

Але звернемся яшчэ да аднаго дакумента — нумарам 8д-98 ад 08.05.98, у якім змешчаны адказ міжрайпракуратуры на заяву аднаго з інвалідаў (копія адказу накіравана таксама першаму намесніку старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю РБ Бірукову В.Г.):

"Слонімскай міжрайпракуратурай вывучаны матэрыялы аб злоўжыванні службовым становішчам старшыні Слонімскага таварыства інвалідаў Шляхценка А.В.

Выкладзеныя ў заяве факты часткова пацвердзіліся. Раней па фактах парушэнняў у дзейнасці таварыства інвалідаў Слонімскім ГРАУС праводзілася праверка. Ва ўзбуджэнні крымінальнай справы было адказана. Адначасова на Шляхценка А.В. быў складзены адміністрацыйны пратакол па арт. 51 КоАП (дробны крадзёж) па факту незаконнага спісання бензіну і выкарыстання аўтамабіля ў асабістых мэтах".

**Віктар ЖУК**

***P.S.*** *Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, рэдакцыя атрымала звестку, што А.В. Шляхценка, ідучы ў водпуск, «забрала» з сабой і службовы аўтамабіль. На гэты раз яна ўзяла легкавушку ў арэнду са згоды кіраўніцтва вышэйстаячай арганізацыі таварыства інвалідаў.*

**НАВІНЫ**

## Сколько в Беларуси беженцев

**По предварительным сведениям, в Беларуси зарегистрировано около 32 тысяч иностранных граждан, претендующих получить права беженцев.**

С 1 июня в Беларуси начнется регистрация ходатайств о признании иностранных граждан беженцами. Как сообщил **БелаПАН** заместитель начальника управления по делам беженцев Комитета по миграции при. Министерстве труда республики Анатолий Бубич, в соответствии с Законом о беженцах было разработано положение о порядке регистрации ходатайства иностранца о признании его беженцем. По словам А.Бубича, на основании этих документов иностранцы, желающие получить статус беженца в Беларуси, с 1 июня могут обращаться в отделы миграционной службы.

## В Беларуси собираются легализовать валюту

**Национальный банк Беларуси выступил с предложением ускорить реализацию Программы неотложных мер по стабилизации внутреннего валютного рынка и обменного курса белорусского рубля.**

Об этом на пресс-конференции заявил председатель правления Национального банка Беларуси Петр Прокопович. По его словам, новая, «ускоренная», программа предполагает, что с 1 августа нынешнего года будут возобновлены котировки белорусского рубля на внешних рынках.

Кроме того, сообщил П.Прокопович, с 1 августа планируется полностью либерализовать рынок наличной валюты. К 1 октября должен быть обеспечен единый курс белорусского безналичного рубля на торгах минской Межбанковской валютной биржи и на внешних рынках, и единый курс белорусского наличного рубля внутри республики. Последняя задача — обеспечить до 1 января 1999 года выход на единый курс белорусского рубля на внутреннем и внешнем рынках.

**БелаПАН**

**ЗДАРЭННІ**

## Прадуктовы бізнес

Днямі супрацоўнікі Івацэвіцкай міліцыі затрымалі сланімчанку Г., якая скупіла ў магазінах Івацэвічаў прадуктаў на суму 2,6 млн. рублёў, каб потым прадаць іх у Расіі.

## Свіння не пішчала, але злодзеяў злавілі

**На мінулым тыдні двое слонімцаў Х. і Б. скралі свінню з фермы вёскі Глоўсевічы.**

Яны не паспелі яе асвежаваць, як былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

## Лета пачалося з крадзяжу

**У ноч з 31 траўня на 1 чэрвеня невядомыя злачынцы абрабавалі аўтамабіль "Жыгулі" на Чырвонаармейскай вуліцы.**

Злодзеі скралі з салона аўтамагнітолу замежнай вытворчасці і касеты.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Профсоюзы опросили

**В Федерации профсоюзов Беларуси подведены итоги социологического опроса, который проводился с целью изучения социально-экономического положения трудящихся.**

На анонимные анкеты ответили 2500 рабочих, служащих и специалистов из всех областных и районных центров республики. 82,8% респондентов считают, что экономическая ситуация в стране ухудшилась, более 38% относят себя к категории бедных людей. Показательными являются следующие ответы: 49,7 процента респондентов не могут себе позволить полноценно питаться, 57,2% — приобретать одежду и обувь, 63,5% — нормально содержать семью.

**БелаПАН**

**ФАКТ**

**«СЕГОДНЯ В БЕЛАРУСИ НАСЧИТЫВАЕТСЯ 23.618 ДЕТЕЙ-СИРОТ, В ПОЛТОРА РАЗА БОЛЬШЕ, ЧЕМ В ПОСЛЕВОЕННОМ 1946 ГОДУ»**

**БелаПАН**



**НАВІНЫ**

## Як чыноўнікі з "крамолай" змагаліся

**У Жыровіцкім саўгасе-тэхнікуме амаль тыдзень працавала рэспубліканская атэстацыйная камісія.**

Мінскія чыноўнікі мелі вялікія паўнамоцтвы, аж да закрыцця навучальнай установы, калі яна не адпавядае неабходным крытэрыям. Сталічныя госці правяралі не толькі навучальную і матэрыяльна-тэхнічную базу, але і падрыхтоўку самых навучэнцаў. У выніку Жыровіцкі саўгас-тэхнікум атрымаў адзнаку "добра".

Аднак у апошні момант "крамола" усё ж знайшлася там, дзе яе не чакалі. Аказалася, што бібліятэка тэхнікума выпісвала незалежныя выданні, як "Народная Воля", "Пагоня", "Навіны" і "Газета Слонімская". Чыноўнікі абурыліся: "Чаму тут апазіцыйная прэса? Гэтага не павінна быць! Убраць!" Прыбралі. У другім паўгоддзі гэтых газет у бібліятэцы Жыровіцкага саўгаса-тэхнікума не будзе...

**Іван ХАХЛОЎ**

## Дзетак вазілі ў Гродна

**Нядаўна каля 40 дзетак, якія наведваюць нядзельную школу пры Свята-Троіцкай праваслаўнай царкве, пабывалі на экскурсіі ў Гродна.**

Яны наведалі мясцовыя праваслаўныя храмы, жаночы манастыр, а напрыканцы — заапарк. Паездку фундавалі бацькі дзетак і Лідска-Навагрудская епархія.

**Сяргей ЁРШ**

## Вярнулася "Арляня"

**Некалі ў нас была ваенна-спартыўная гульня "Арляня".**

У ёй школьнікі паказвалі свае здольнасці ў стральбе, бегу, кіданні гранаты і г.д. І вось слонімская арганізацыя БПСМ зноў вырашыла вярнуць "Арляня" у горад над Шчарай. Два дні школьнікі спаборнічалі паміж сабой. Перамагла каманда СШ №4.

**Міхась АКУЛКА**

## "Я рисую мир"

**Перед зданием ЦДЮТ прямо на тротуаре дети мелом рисовали свой мир, где было много солнца и жизненной радости.**

Следует отметить рисунки Кати Сычевой 7 лет, Татьяны Бобко 8 лет, Ани Дятловой 8 лет, Леши Семенова 8 лет и группы учащихся СШ №6.

По окончании выставки участники были награждены подарками.

**Евгений ИВАНОВ**

## Агляд творчасці моладзі

**Упершыню Слонімскі беларускі драматычны тэатр прыняў удзел у Рэспубліканскім аглядзе творчасці моладзі тэатраў драмы і лялек, які прайшоў у Гродна.**

Нашы артысты паказалі спектакль рэжысёра Віктара Небальсіна "Жыла-была Сыраежка". Лепшыя спектаклі тэатраў Беларусі журы адбярэ на заключны этап — фестываль творчай моладзі, які таксама пройдзе ў Гродна ў кастрычніку.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



ТРЫБУНА

# ШТО Ў ВАС СЁННЯ НА ВЯЧЭРУ?

**Якія б палітычныя ці іншыя вятры не дзьмулі, а есці заўсёды хочацца — і дэмакрату, і камуністу, і школьніку, і пенсіянеру. Таму і пытанне да людзей рознага ўзросту і розных прафесій было чыста чалавечае: што вы будзеце есці сёння на вячэру?**

***Анатоль, вадзіцель аўтобуса:***

–Сёння я вярнуся з працы раней жонкі, таму, хутчэй за ўсё, пасмажу бульбы. Купіў вось малака, кефіру, а там што-небудзь і ў халадзільніку знойдзецца. Без вячэры не застанемся.

***Мікалай Іванавіч, беспрацоўны:***

–На вячэру з'ем тое, што Бог пашле. А пашле тое, што жонка ў краме купіць. Учора еў кільку з бульбай, а сёння... Не ведаю.

***Ганна, 43 гады, работніца мэблевай фабрыкі:***

–Сёння я працую ў другую змену, вярнуся дамоў позна. Таму муж і дзеці сабе самі што-небудзь прыгатуюць. Дзякаваць Богу, што мой муж някепска гатуе. Не, прысмакі на стале толькі па святах, а так у асноўным, бульба, малако, кефір...

***Марыя, поўная жанчына ля магазіна "Салют":***

–Купіла вось малака, пельменяў. У мяне муж і два сыны, іх трэба карміць добра, каб не злаваліся, бо ўсе трое працуюць на будоўлі. А на мяне вы не глядзіце, што такая, мне шмат не трэба, ды наогул, у ежы я не вельмі разборлівая, што ёсць, тое і з'ем.

***Алена Іванаўна, настаўніца:***

–Заўсёды праблема, што прыгатаваць на вячэру. Сям'я ў мяне невялікая, але ўсё роўна грошы пасля наведвання магазіна знікаюць з касмічнай хуткасцю. Возьмеш з сабой пяцьсот тысяч, здаецца, ніякіх прысмакаў не купляеш, а ў кашальку пуста.

***Баба Галя, пенсіянерка, прадавец семкаў:***

–Цэлы дзень вось семкамі гандлюю, можа 10 стаканаў і прадала. У мяне вячэра амаль кожны дзень аднолькавая: бульбачка ды малако. Калі-нікалі каўбасы таннай куплю кавалачак. Мне адной шмат не трэба. Мужык быў, ён любіў і паесці, і выпіць.

***Косця, навучэнец Жыровіцкага саўгаса-тэхнікума:***

–Вы з тае газеты, што ў Баранавічах друкуецца? Учора з сябрамі я добра павячэраў, адзначалі дзень нараджэння аднакурсніка. Хапала ўсяго і выпіць, і закусіць. Сёння мая вячэра будзе адрозніваецца ад учарашняй. На батон і кефір грошай назбіраю.

***Віктар Іванавіч, вадзіцель-дальнябойшчык:***

–Дзе я сёння буду вячэраць, што буду есці – не ведаю. Заўсёды бяру з сабой кавалак сала і ніколі не маю праблем з вячэрай.

***Святлана, прыватны прадпрымальнік:***

–Ні ў чым сабе не адмаўляю. Каб зберагчы здароўе, трэба добра харчавацца. Лепш аддаваць грошы на добрыя прадукты, чым потым траціць іх на лекі. У доме, практычна, не пераводзяцца яблыкі, апельсіны. Пакуль што маю магчымасць карміць сям'ю добра.

***Наташа, навучэнка медвучылішча:***

–Што ў халадзільніку ёсць, тое і з'ем. Бацькі без мяне вячэраюць, але мама абавязкова нешта смачнае для мяне прыхавае.

**Апытаў**
**Валянцін ЧУРЫЛА**



ЗДРАВСТВУЙ, РЕДАКЦИЯ!

# Побойтесь Бога!



Пишут Вам жители, проживающие на Советской улице в домах №2, 3, 7, 9, 11 и 13, которые находятся на расстоянии 5-10 метров от синагоги. В настоящее время этот храм XVII века представляет собой рассадник инфекции XX века. Само здание находится в аварийном состоянии, кругом антисанитария. А рядом находится колхозный рынок, и вокруг этой синагоги люди торгуют продуктами питания. Внутри здания – кучи навоза, по той причине, что люди там открыли второй общественный туалет. Когда пригреет солнышко, оттуда идет такой смрад, что невозможно открыть окна или посидеть около дома. А ведь это все находится под самым носом санэпидстанции. Удивляет то, что это никого не волнует: ни исполком города, ни санэпидстанцию. Ведь в Слоним летом приезжает множество экскурсий, в том числе и из-за границы, которые посещают рынок, и что они увидят....

Более того, в стене пристройки к синагоге, где ранее был бар, «растет» разлом. В непогоду под этой крышей прячутся люди, совершенно не подозревая, что в любой момент на них может обрушиться смертельный вал кирпичей. Еще одну серьезную опасность представляют собой строительные леса синагоги со стороны общежития ФХИ. Одна опора под лесами разрушена и они держатся за счет всей деревянной конструкции. Опасность в том, что там постоянно играют дети. Известно, что синагога – гордость, величайшая ценность города. Храм возвели в 1642 году.

Имеем ли мы право с таким пренебрежением относиться к нему?! Это "сторожил" города. Если вопрос в деньгах, то, быть может, есть возможность его спасти всем миром. Ведь собираются средства на строительство церкви.

**Новосельские, д. №13, Игнатик, д. №11, Рахматулина, Комар, Минчук, Ломейко, д. №3**





ФУТБОЛ *высшая лига*

# РАЗГРОМ НА БЕРЕЗИНЕ...

**Белшина (Бобруйск) — Коммунальник (Слоним) — 5:1**

**Бобруйск. 30 мая. Стадион "Спартак". 3500 зрителей.**

**Судья И.Майоров (нк, Витебск)**

**Коммунальник: Трусило, Капанец, В.Дегиль (Шупилов, 46), А.Дегиль, Цыбулько, Киреня, Пашкевич, Савицкий (Колядчик, 70), Баль (к), Савонь, Татарашвили (Врублевский, 63).**

**Голы: Левицкий (20, 61), Балашов (57, 83), Улезло (78), Савонь (87).**

**Предупреждения: Татарашвили, Цыбулько ("Коммунальник"), Ковалевич, Борисик ("Белшина").**

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — нет, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок - нет.**

# ... И "МИРОВАЯ" НА ЩАРЕ

**Коммунальник (Слоним) — Нафтан-Девон (Новополоцк) — 0:0**

**Слоним. 3 июня. Стадион "Юность". 4000 зрителей.**

**Судья Б.Ясинский (нк, Минск)**

**"Коммунальник": Киркиж, Капанец, В.Дегиль (Татарашвили, 56), А.Дегиль, Дым, Янковский, Пашкевич (Шупилов, 50), Данилевич (к, Цыбулько, 46), Баль, Колядчик, Савонь.**

**Предупреждения: Гнедков, Шевченко (Нафтан-Девон); Баль, Янковский (Коммунальник).**

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — Баль, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — Савонь.**

"Коммунальник" в этот вечер сделал все, что мог. Или почти все. На поле вышел даже Юрий Данилевич, который уже давно не играл из-за тяжелой травмы. Он боролся за мяч, показывал пример своим молодым партнерам...

Наши футболисты заметно нервничали, ошибались. Уже на восьмой минуте ошибся Дым, и "укравший" у него мяч Стрипейкис перебросил Киркижа, но не попал в ворота. Слонимчане старались, больше контролировали мяч, но опасных моментов создать не могли, разве что можно вспомнить удар со штрафного Дыма (выше ворот), или удар головой Анатолия Дегиля. Но такого желанного гола не было. А Стрипейкис снова "выстрелил" – мяч попал в крестовину...

Во второй половине матча гости, которые продолжали играть на контратаках, имели две стопроцентные возможности забить гол. Но счастье было на стороне хозяев... А вышедшие на замены Татарашвили и Шупилов обострили игру "Коммунальника". Но на опасный прострел Шупилова в конце матча Георгий не смог среагировать. Нулевая ничья.

Игру слонимчане доигрывали вдесятером – травму получил Анатолий Дегиль. В больнице ему на разбитую бровь наложили швы...

**Сергей ЁРШ**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Герасімчык** Раман Дзянісавіч | 1973 г.н. |
| **Мікуць** Кацярына Ярамееўна | 1916 г.н. |
| **Ковік** Соф'я Львоўна | 1914 г.н. |
| **Лугоўская** Ніна Іосіфаўна | 1931 г.н. |
| **Звягіна** Марыя Рыгораўна | 1930 г.н. |

Классный руководитель и учащиеся 9 "В" класса СШ №3 выражают глубокие соболезнования **Герасимчик** Анжелике и ее семье, по причине настигшего их горя — смерти

**БРАТА И СЫНА.**

Выражаем сердечную благодарность работникам мясокомбината, ДУ-7, соседям, родственникам и знакомым, принявшим участие и оказавшим помощь в похоронах

**БЕЛЯКА Григория Игнатьевича.**

*Жена и дети покойного*

## РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ 9 ТУРА

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Торпедо-Кадино — Белшина** | **0:2** | **БАТЭ — Торпедо** | **0:1** |
| **Локомотив-96 — Славия** | **3:0** | **Динамо Бр — Динамо-93** | **3:1** |
| **Молодечно — Динамо Мн** | **0:3** | **Шахтер — Гомель** | **1:2** |

## ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

**ПОСЛЕ 9-ГО ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Торпедо (Минск) | 9 | 5 | 4 | 0 | 14-5 | 19 |
| 2. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 8 | 5 | 1 | 2 | 19-5 | 16 |
| 3. | Белшина (Бобруйск) | 9 | 4 | 3 | 2 | 11-5 | 15 |
| 4. | Локомотив-96 (Витебск) | 9 | 4 | 3 | 2 | 10-5 | 15 |
| 5. | БАТЭ (Борисов) | 9 | 4 | 3 | 2 | 14-10 | 15 |
| 6. | Гомель | 9 | 4 | 3 | 2 | 10-8 | 15 |
| 7. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 9 | 4 | 2 | 3 | 13-12 | 14 |
| 8. | Славия (Мозырь) | 9 | 4 | 2 | 3 | 13-14 | 14 |
| 9. | Динамо-93 (Минск) | 9 | 3 | 4 | 2 | 14-9 | 13 |
| 10. | Динамо (Брест) | 9 | 4 | 1 | 4 | 12-8 | 13 |
| 11. | Динамо (Минск) | 9 | 4 | 1 | 4 | 10-10 | 13 |
| 12. | Шахтер (Солигорск) | 9 | 3 | 3 | 3 | 8-12 | 12 |
| 13. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 9 | 2 | 2 | 5 | 11-14 | 8 |
| 14. | Неман (Гродно) | 8 | 1 | 3 | 4 | 4-12 | 6 |
| 15. | Молодечно | 9 | 1 | 0 | 8 | 8-23 | 3 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 9 | 0 | 3 | 6 | 4-23 | 3 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

Газета Слонімская
*Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.*
*Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.*

**Адрас рэдакцыі:**
*231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.*
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

*Падпісана да друку 4 чэрвеня 1998 г.*
*Час падпісання 8:00.*
*Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.*

*Падпісны індэкс 64042.*
*Наклад 6.600 экз.*
*Заказ № 1745.*



ІНФАРМБЮРО

# Што з воза ўпала, тое прапала

***Раскажыце, як налічваецца дарожны збор з уладальнікаў легкавога аўтатранспарту? Ці вернуць мне грошы, калі я пераплачу суму гэтага збору?***

**Франц Іванавіч ЯМАНТ, жыхар Слоніма**

Уладальнікам прыватных легкавых і грузавых аўтамабіляў сёлета прыйдзецца плаціць розны памер штогадовага збору за дарогі. Калі раней уладальнікі "Запарожца" і "Мэрсэдэса" плацілі аднолькавую суму збору, у памеры двух мінімальных заробтных плат (МЗП) у год, то зараз велічыня дарожнага збору залежыць аб магутнасці рухавіка машыны.

У адпаведнасці з "Палажэннем аб парадку фарміравання і выкарыстання сродкаў рэспубліканскага дарожнага фонду ў 1998 годзе", уладальнік аўтамабіля магутнасцю да 40 конскіх сіл (гэта, напрыклад, "Запарожац") павінен у год заплаціць адну МЗП, магутнасцю ад 40 да 100 конскіх сіл – паўтары МЗП (гэта аўтамабілі ВАЗ), магутнасцю ад 100 да 150 конскіх сіл – тры МЗП. А вось уладальніку рухавіка, які мае магутнасць звыш 150 конскіх сіл, прыйдзецца выкласці пяць МЗП альбо 1250 тыс. рублёў.

Пенсіянерам па ўзросту прадстаўлена скідка ў памеры 50%. Тым уладальнікам аўтамабіляў, хто заплаціў збор да выхаду ў свет Палажэння і пераплаціў неабходную суму перараздзлік рабіцца не будзе, а значыць грошы ім не вернуць.

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

# Уклады будуць кампенсаваны

***Просьба: раскажыце, як будзе праводзіцца кампенсацыя грашовых укладаў 1991 года?***

**З павагай да вас, ваш падпісчык.**

За тлумачэннямі па гэтаму пытанню газета звярнулася да намесніка дырэктара Слонімскага філіяла ААБ "Беларусбанк" Вольгі Крупнік. Вось, што яна сказала:

–Кампенсацыя будзе праводзіцца не толькі для ўсіх укладчыкаў, што мелі ўклады ва ўстановах Ашчадбанка з 01.01.92 да 01.01.95, але і для ўладальнікаў аблігацый Мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года на набыццё тавараў доўгатэрміновага карыстання. Нават калі сёння ўкладчык не з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і пражывае за яе межамі, кампенсацыя ўсё роўна будзе налічана.

Налічэнне кампенсацыі будзе праводзіцца як па дзеючых, так і па закрытых укладах, у тым ліку ветэранам вайны, якія атрымалі кампенсацыю на аснове Указа прэзідэнта РБ ад 8 траўня 1996 года.

Налічэнне кампенсацыі будзе праводзіцца па ўсіх відах укладаў, якія меліся на перыяд з 01.01.92 па 01.01.95. 1991 год выключаны з-за таго, што па стану на 1 сакавіка 1991 года была праведзена 40%-ая кампенсацыя ўкладаў і каштоўных папер, а ў траўні-чэрвені 1992 года – разавая індэксацыя ўкладаў па стану на 1 студзеня 1992 года, шляхам карэкціроўкі астаткаў укладаў на індэкс змянення спажывецкіх цэнаў (119,3%), што дазволіла кампенсаваць укладчыкам страты ад абясцэньвання ўкладаў у 1991 годзе.

Пра тэрміны правядзення кампенсацыі ўкладчыкі даведаюцца праз сродкі масавай інфармацыі. Наш банк да гэтага ўжо гатовы: падрыхтаваны спісы ўкладчыкаў, праведзена сістэматызацыя ўкладаў па відах і г.д.

# Пособия на детей

***Я мать троих несовершеннолетних детей. Какие пособия на них мне по закону положено получать?***

**Галина МИРОНОВА**

С этим вопросом в свою очередь редакция обратилась в фонд социальной защиты населения.

Начальник Слонимского отдела этого фонда Галина Добриян сообщила следующее:

Согласно Закона Республики Беларусь "О государственных пособиях, семьям воспитывающим детей" выплачиваются следующие виды пособий:

**Пособие в связи с рождением ребенка** назначается и выплачивается на основании справки органов ЗАГСа о рождении ребенка. На детей, родившихся мертвыми, пособие не выплачивается. Пособие выплачивается в размере утвержденного среднедушевого минимального потребительского бюджета семьи из 4 человек, действующего на месяц рождения ребенка.

**Пособие матери, ставшей на учет в женской консультации до 12-недельного срока беременности**, выплачивается единовременно в размере 50% пособия в связи с рождением ребенка на основании справки женской консультации.

**Пособие по уходу за ребенком в возрасте до 3 лет** работающим (обучающимся с отрывом от производства) матерям (отцам), находящимся в отпуске по уходу за ребенком назначается в размере 35% минимального потребительского бюджета семьи из 4 человек, утвержденного в ценах сентября предшествующего года или 712800 руб. Неработающим женщинам (в том числе женщинам, осуществляющим уход за ребенком-инвалидом в возрасте до 16 лет), женщинам, признанным в установленном порядке безработными – в размере 20% минимального потребительского бюджета – 407300 руб.

**Пособия на детей в возрасте старше 3 лет** назначаются при условии уплаты родителями взносов на государственное социальное страхование. Право на такое пособие имеют также родители, признанные в установленном порядке безработными с правом на получение пособия по безработице, родители, обучающиеся в профессионально-технических, средне-специальных и высших учебных заведениях с отрывом от производства, а также нетрудоспособные родители. Пособие назначается в зависимости от совокупного дохода на члена семьи. В случае, если совокупный доход на члена семьи менее 40% МПБ, то пособие назначается в полном размере (15% среднедушевого минимального потребительского бюджета – 305500 руб.), если же доход на члена семьи более 40, но менее 50% МПБ, пособие назначается в половинном размере.

**Пособие одиноким матерям, воспитывающим ребенка в возрасте до 1,5 лет**, выплачивается независимо от получения ими других пособий и надбавок к ним. Пособие устанавливается в размере 15% среднедушевого минимального потребительского бюджета – 305500 руб.

Все виды пособий на детей и надбавки к ним назначаются и выплачиваются со дня возникновения права на них, если обращение за пособием последовало в течение 6 месяцев со дня возникновения этого права.

**РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ МЕЖДУГОРОДНИХ АВТОБУСОВ с автовокзала Слоним**

| | |
|---|---|
| Слоним — Минск | 16-05 (пт, сб, вс) |
| Слоним — Гродно (ч/з Мосты) | 6-30 (ежедневно) |
| Минск — Ружаны | 6-30, 18-30 (пн, пт, сб, вс) |
| Слоним — Лида | 6-50 (еж.) |
| Слоним — Лида | 12-00 (пт, сб, вс) |
| Слоним — Доманово | 7-45, 14-50 (сб, вс) |
| Слоним — Брест | 7-05 (еж) |
| Слоним — Новоельня | 8-20, 14-25 (пт, сб, вс) |
| Слоним — Ошмяны | 13-50 (пт, вс) |
| Слоним — Новогрудок | 16-30 (пт, вс) |
| Минск — Гродно | 19-17 (еж) |
| Гродно — Минск | 17-26 (еж) |
| Вильнюс — Пинск | 15-20 (еж) |
| Пинск — Вильнюс | 14-40 (еж) |
| Солигорск — Гродно | 13-02 (еж) |
| Гродно — Солигорск | 12-03 (еж) |
| Волковыск — Новогрудок | 17-26 (пт, сб, вс) |
| Новогрудок — Волковыск | 11-53 (пт, сб, вс) |
| Брест — Лида | 21-08 (пт, сб, вс) |
| Лида — Брест | 11-14 (пт, сб, вс) |
| Минск — Мосты | 21-57 (пт, вс) |
| Мосты — Минск | 11-04 (пт, вс) |
| Вильнюс — Брест | 17-07 (сб, вс) |
| Брест — Вильнюс | 10-37 (сб, вс) |
| Минск — Свислочь | 20-47 (еж) |
| Свислочь — Минск | 9-52 (еж) |
| Ружаны — Минск | 8-36 (пн, пт, сб, вс) |

**РАСПИСАНИЕ ОТПРАВЛЕНИЯ ПРИГОРОДНЫХ АВТОБУСОВ с автовокзала Слоним**

| | |
|---|---|
| Слоним — Жировичи | 6-15 (кроме вых. дней), 7-30, 9-20, 12-20, 13-47, 15-10, 17-10, 19-10 (еж). |
| Слоним — Деречин | 8-00, 14-30 (пн, вт, чт, пт, сб, вс) |
| Слоним — Дятлово | 8-00, 13-10 (сб, вс) |
| Слоним — Едначи | 6-55, 18-00 (ср, пт, сб, вс) |
| Слоним — Кракотка | 6-00, 16-15 (пт, сб, вс) |
| Слоним — Клепачи | 6-25, 18-20 (пт, вс) |
| Слоним — Малышевичи | 10-30, 19-00 (пт, вс) |
| Слоним — Мизгири | 6-00, 14-00 (пн, ср, чт, сб, вс) |
| Слоним — Нагуевичи | 9-00, 17-30 (пн, пт, сб, вс) |
| Слоним — Низ | 7-00, 15-00 (вт, чт)<br>9-00, 18-00 (сб, вс) |
| Слоним — Пироним | 6-50, 15-30 (пн, ср, пт, сб, вс) |
| Слоним — Плавские | 6-50, 14-00 (сб, вс) |
| Слоним — Савичи | 8-00, 17-15 (пн, сб, вс) |
| Слоним — Смовжи | 7-00, 15-30 (ср, сб, вс) |
| Слоним — Ст.Девятковичи | 5-50, 14-45 (сб, вс) |
| Слоним — Студеровщина | 6-35, 18-00 (вт, чт, сб, вс) |
| Слоним — Уроч | 6-40, 16-40 (вт, пт, сб, вс) |
| Слоним — Ходевичи | 7-15, 16-45 (сб, вс) |
| Слоним — Залесье | 7-30, 19-10 (еж) |
| Слоним — Мижевичи | 11-00 (сб, вс) |
| Слоним — Окуниново | 6-20, 16-30 (сб, вс) |
| Слоним — Н. Девятковичи | 5-50, 14-45 (пн) |

**Уточнение**

В № 22 (51) в расписании пассажирских поездов по станции Слоним была допущена ошибка. Вместо указанного поезда Гродно-Барановичи (№248, отправлением из Слонима в 23-51), следует читать: **Гродно-Днепропетровск**.

ПРАШУ СЛОВА

# Каму што баліць...

Як кажуць, каму што баліць, той на тое і скардзіцца. Вось і знаёмы вадзіцель маршрутнага аўтобуса № 12 Іван З., сустрэўшы мяне, пачаў скардзіцца на сваё нялёгкае шафёрскае жыццё. Падчас размовы я зразумеў, што праблемы, якія ўзнімае Іван, хвалююць не толькі яго, вадзіцеля, але і мяне, пасажыра гарадскога транспарта.

Спачатку Іван стаў расказваць пра прастоі аўтобусаў, якія адбіваюцца на ягонай зарплаце, а, значыць, і на бюджэце ягонай сям'і.

У аўтапарку №3, дзе ён працуе, не хапае ўсяго. Як Іван сказаў: "Нават звычайнай дробязі, як, напрыклад, свечкі запальвання. А пра ліставое жалеза для зношанага кузава аўтобуса і казаць не прыходзіцца".

А адна з самых балючых праблем вадзіцеляў аўтапарка №3 – праца на маршруце №12, які ён чакае як пакарання. Вядома, што маршрут №12 – "таксі". Праезд на ім даражэйшы, чым на іншых аўтобусах, а таму для пасажыраў ён павінен быць камфортны. Так першапачаткова і задумвалася. Планавалася, што маршрут №12 "таксі" будзе ўключаць 7 прыпынкаў: Энка – 10-я школа – Аптэка – Вакзал – Ільназавод – Магазін "Іса" – Бальніца.

Каб праехаць туды і назад, трэба зрабіць кальцо, на гэта вадзіцелю давалася адна гадзіна. У гэты час шафёры ўкладваліся без асаблівага нервовага напружання. А потым адміністрацыя аўтапарку №3 да вышэй пералічаных прыпынкаў па патрабаванню пасажыраў дабавіла яшчэ некалькі: Тапалёвая – Зялёная – "Спадарожнік" – пл. Сапегі, а таксама Чкалава – Гагарына – VII пераезд – Леашэні. А вось час на маршрут пакінулі той жа – адну гадзіну.

У гэты графік вадзіцелю ўжо цяжка ўкласціся. У выніку яны сталі нервавацца, графік маршруту стаў парушацца, з-за чаго злуюцца і пасажыры, выказваючы вадзіцелям свае папрокі. Узнікае ўзаемная непрыхільнасць. Асабліва, калі трэба прыпыніцца па патрабаванню людзей, якія знаходзяцца ў аўтобусе ці на прыпынку.

Добра, калі ёсць сігнальная кнопка ў аўтобусе, а калі няма, то пасажыр вымушаны гукаць на ўвесь аўтобус, каб вадзіцель спыніўся па ягонаму патрабаванню, што часта ў салоне аўтобуса выклікае смех, кпіны, пасля чаго пасажыр выходзіць абражаны.

У гэтым годзе на агульным сходзе вадзіцелі прасілі кіраўніцтва аўтапарка павялічыць графік гэтага маршруту на 10 хвілін, але кіраўніцтва да іхняга голасу не прыслухалася. У вадзіцеляў было жаданне: зрабіць пастаянны графік маршрута №12 (35 хвілін у адзін канец і 35 хвілін у другі). Цяпер жа яны, напрыклад, з Энкі да бальніцы павінны прывезці пасажыраў за 25 хвілін. А як гэта зрабіць у час пік?

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

**Працягваецца падпіска на "Газету Слонімскую" на другое паўгоддзе 1998 года. Калектыў рэдакцыі будзе па-ранейшаму на яе старонках расказваць пра навіны горада і раёна, пра тыя праблемы, якія вас турбуюць. Шмат увагі будзе аддавацца спорту, гісторыі, культуры, літаратуры і гумару.**

**"*Газета Слонімская*" — выданне, дзе вы можаце ў любым нумары змясціць сваю рэкламу, прыняць удзел у конкурсах, якія мы будзем праводзіць.**

**"*Газета Слонімская*" — мястэчковае выданне. Але яна не будзе абмяжоўвацца толькі Слонімшынай. Мы маем намер расказваць таксама пра навіны суседніх раёнаў. Больш таго, нашы карэспандэнты будуць выязджаць у іншыя рэгіёны Беларусі, СНД і Еўропы, каб адтуль паведамляць вам пра самае цікавае.**

**"*Газета Слонімская*" — незалежнае выданне, але на яе старонках могуць мець слова прадстаўнікі ўсіх партый Беларусі, а таксама і ўлады.**

**Мінулы, дваццаць другі нумар "ГС", выйшаў на 12 старонках. У перспектыве такой будзе наша газета. Але шмат, шаноўныя чытачы, залежыць ад вас. Пішыце, званіце, заходзьце да нас у рэдакцыю. А ў гэтыя чэрвеньскія дні не забудзьце заглянуць на пошту і выпісаць "*Газету Слонімскую*".**

**Рэдакцыя**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# Мастак Антон Карніцкі

**Каля 150 карцін мастака са Слоніма Антона Карніцкага вывезлі немцы ў Германію ў 1944 годзе.**



Аўтапартрэт, 1943г.

У снежні мінулага года нашаму земляку споўнілася б 85 гадоў. На жаль, жыццёвы і творчы шлях яго быў вельмі кароткім. Нарадзіўся Антон Карніцкі ў 1912 годзе ў Адэсе, куды ў пошуках заробку выехалі яго бацькі. Сям'я вярнулася на Слонімшчыну толькі ў 1922 годзе. Рана памрэ маці, пакінуўшы сіротамі малых дзяцей Антона і Леаніда. Бацька прывядзе мачаху, Ганну Аляксандраўну, якая мела дачку. Гэтая жанчына была шчырай і добрай. Яна гадавала і глядзела дзяцей Карніцкага, як родных. Жыла сям'я ў Рышчыцах у доме №5.

Пачатковую мастацкую адукацыю Антон Карніцкі атрымаў у сваіх слонімскіх сяброў-мастакоў. Пасля вучыўся ў гімназіі імя Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Там ён скончыў пяць класаў, а ў 1939 годзе закончыў тры класы мастацкай школы Панківіта ў Варшаве. Мог працягваць вучобу і далей, але перашкодзіла вайна.



Рынак у Слоніме, 1943г.

У Варшаве шмат засталося карцін Антона, якія пазней загінулі ў віхурах вайны. З Варшавы мастак дабіраўся ў Слонім пехатою, у дарозе застудзіўся і моцна захварэў. Усё ж дайсці да Баранавіч яму ўдалося. А з Баранавіч яго бацька, Павел Фёдаравіч, прывёз у Слонім. Антона знялі з падводы і неслі на руках...

Калі гітлераўцы акупіравалі Слонім, мясцовы гэбітскамісар Эррэн паклікаў да сябе Антона Карніцкага і загадаў маляваць для яго карціны на тэмы краявідаў Слоніма, Слонімшчыны і прыносіць да яго. Калі б Антон адмовіўся, ягоны лёс быў бы імгненна вырашаны — турма, лагер смерці ці ссылка ў Нямеччыну. Таму мастак быў вымушаны маляваць і прыносіць карціны Эррэну. Аднойчы, калі Антон прынёс сваю чарговую працу, дык убачыў, што на прынесеных раней карцінах замест прозвішча А.Карніцкі, стаяла прозвішча Эррэн... Гэбітскамісар змываў прозвішча Карніцкага, а пісаў сваё, быццам ён сам маляваў карціны ў Слоніме.

У час акупацыі Антон Карніцкі шчыра сябраваў з мастачкамі Рэгінай Бялецкай, Клаўдзіяй Хруцкай, краязнаўцам Іосіфам Стаброўскім, паэтамі Анатолем Іверсам, Сяргеем Новікам-Пеюном, Сяргеем Хмарам, Гальяшом Леўчыкам. Маляваў і іх партрэты. Сяргей Новік-Пяюн, якога ўжо няма ў жывых, у 1988 годзе напісаў па маёй просьбе і пакінуў цікавы ўспамін пра мастака. Вось што ён паведаміў: "Пазнаёміўся я з Антонам Карніцкім выпадкова ўлетку 1934 года ў Слоніме, — успамінае Сяргей Новік-Пяюн, — калі ён ішоў некуды з эцюднікам. З таго часу і да канца жыцця Антона нас аб'ядноўвала сардэчная прыхільнасць і любоў да мастацтва. Мы



Хлеў і гумно ў Рышчыцах, 1943г.

любілі маляваць, любілі паэзію і музыку. Антон добра іграў на скрыпцы, я — на мандаліне. Мы не раз ігралі разам. Ён меў прыгожы голас, я таксама спяваў. Часта нам прыходзілася галадаць, але духам мы не падалі...".

Мастак Антон Карніцкі быў прыхільнікам рэалізму, глыбокай была яго сувязь з роднай зямлёй і з нацыянальнай культурай. Ён увасабляў тое, што было дарагое для яго — сяброў, сваякоў, суседзяў, родную зямлю... Пісаў партрэты, пейзажы, нацюрморты. Гэта былі аптымістычныя і рэалістычныя творы. Але нельга ацэньваць зробленае Антонам Карніцкім толькі з традыцыйных мастацтвазнаўчых пазіцый. Мастак не мог разлічваць ні на які поспех, ні на якія прыстойныя ўмовы жыцця і працы, ні на што іншае, даступнае таленавітаму чалавеку ў мірны час. Таму жыццё і творчасць Антона Карніцкага вартыя пашаны, гэта свайго роду подзвіг чалавека і мастака, сведчанне сілы духу чалавека і народа, прадстаўніком якога ён быў і застаецца.

25 студзеня 1944 года Антона Карніцкага не стала. Ён памёр ад туберкулёзу горла, яму было толькі 32 гады. Пахавалі мастака на Ружанскіх могілках. На жаль, магілу яго знайсці так і не ўдалося. Але да сённяшніх дзён у Слонімскім краязнаўчым музеі знаходзіцца некалькі карцін Антона Карніцкага. Гледзячы на іх, адразу адчуваецца, што гэта быў вельмі таленавіты мастак. Але большасць яго карцін раскіданы па ўсім свеце ў прыватных калекцыях. Мяркую, што яны могуць быць і ў Слоніме, і ў яго ваколіцах у сем'ях старажылаў. Шчырая да ўсіх просьба адгукнуцца на гэтую публікацыю.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Кудзельніца, 1943г.

ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ...

## Пара кінуць піць гарэлку



Аднаго разу я пацікавіўся пазнаць жыццё моладзі ў мястэчку Жыровіцы Слонімскага павету. Таму пайшоў я на вечарынку, дзе прасядзеў доўгі час і ўцешыўся, убачыўшы, што моладзь цвярозая, зусім спакойна і цікава гуляе. Але вось калі рушыў я ісці дахаты, то ў дзвярах убачыў брыдкі абраз двух маладых хлапцоў, не раўнуючы як жывёліны, проста ракам, як кажуць, лезлі ў хату. Цвярозыя, літуючыся дапамаглі ім увайсці і пасадзілі на крэсла. Яны аднак не сядзелі спакойна і пачалі біцца. Убачыўшы гэта, цвярозыя вывелі іх з вечарыны і завялі дамоў спаць.

Дарагая моладзь, стыдна нават падумаць аб такіх рэчах. Пара ўжо, даўно пара стаць на добрую дарогу! Трэба кінуць піць гарэлку, марнаваць грошы, здароўе!

Мы маем свае арганізацыі, свае часопісы. Замест таго, каб п'янстваваць, лепш ахвяраваць грошы на агульную грамадскую мэту.

Зробім мы гэта, выпісваючы і чытаючы свае беларускія кніжкі ды часопісы, як "Шлях моладзі" ды інш., і гэтым самым навучымся жыць!

Пара апамятацца.

**Жыравіцкі.**

**Шлях моладзі (Вільня), №3 (13) сакавік 1930 г.**

## Самаахова ў Жыровіцах

Каб бараніцца перад нападамі... рабаўнікоў жыхары мястэчка Жыровіцы і суседняй вёскі Стайкі яшчэ ў верасні арганізавалі ў сябе аддзел Беларускае самааховы, у які запісалася да 90 чалавек пад кіраўніцтвам Аркадзя Ліхача.

Жыровіцкая самаахова хутка дала знаць пра сябе бандытам, даўшы ім адпор пры нападзе на вёску Стайкі, пры якім палегла 3 бандыты.

10 снежня пры аблаве разам з паліцыяй Жыровіцкі аддзел Беларускае самааховы наткнуўся на банду пры вёсцы Вішнёўка ў ліку 25 асобаў. Разбітая банда ратавалася ўцёкамі, пакінуўшы нарабаваныя недзе ў сялян 3 коняў, 2 авечкі, 2-е парасятаў, шмат мяса і мукі, аўсу і іншае.

**Беларуская газэта (Мінск), №6, 24 студзеня 1943 г.**

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ. *1936 год*



На здымку 1936 года, з прыватнай калекцыі слонімца Васіля Струпаўца, адлюстраваны момант асвячэння будынка адміністрацыі Шылавіцкай гміны (цяперашні сельсавет). Будынак гэты (у Слоніме на Шасэйнай вуліцы) захаваўся. Сёння там знаходзіцца турбаза.

На гэтым здымку мы бачым не толькі войта, каталіцкага святара, але і некалькі дзесяткаў солтысаў (стараст) вёсак, якія ўваходзілі ў Шылавіцкую гміну. Магчыма, што некаторыя з гэтых людзей яшчэ жывыя. Нам пакуль удалося ўстанавіць толькі два прозвішчы: у другім радзе знізу, трэці злева – Іван Лук'янавіч Струпавец з Якімавіч, а сёмы злева – Аляксандр Цітавіч Равенка.

**С.Ё.**












Мал. Я.ІВАНОВА

